Дняпроўская СТРОМА

№ 18 люты 2013 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


# А ўсё ж жыццё мацней



"Максім Гарэцкі"
Мастак А.Крывенка, 1994 г.

*120 год таму, 6 лютага 1893 года,*
*у вёсцы Малая Багацькаўка*
*Мсціслаўскага павета*
*нарадзіўся беларускі празаік, драматург,*
*навуковец і дзеяч нацыянальнага Адраджэння*
*Максім Іванавіч ГАРЭЦКІ*

Пісьменніцкі лёс Максіма Гарэцкага выдаўся шчасліва-трагічным. Дэбютаваўшы малымі допісамі ў "Нашу ніву", ён у хуткім часе стаў адным з відных пісьменнікаў Адраджэння нашаніўскага перыяду. Ужо тады, у юнацкім узросце, ставіў перад вядучымі літаратарамі грандыёзныя задачы, вырашэнне якіх павінна было вывесці беларускую літаратуру не толькі на ўзровень еўрапейскай, але можа і стаць галоўным выразнікам усіх тагачасных праяў сусветнага літаратурнага працэсу.

На жаль, імклівы ход мастацкага мужнення Гарэцкага быў жорстка абарваны "самым народным" урадам: спачатку высланы ў знакамітую яшчэ з царскіх часоў Вятку, дзе адбывалі тады пакаранне палітычна ненадзейныя, а потым і знішчаны канчаткова.

Абмежаваны фізічна, пастаўлены ў невыносныя ўмовы жыцця ў выгнанні, Максім Гарэцкі не скарыўся духоўна. Пра гэта сведчаць лісты да родных і тыя творы, што шчасліва захаваліся ў сцюдзёнай жыццёвай калатнечы. Перш за ўсё гэта раман "Віленскія камунары", вялікія раздзелы з незакочанай "Камароўскай хронікі". Але ўсё ж, напэўна, найболей выяўляюць душэўны стан творцы і яго філасофскі погляд на жыццё напісаныя ім у той час радкі душэўнай споведзі, якія сталі вядомымі толькі ў пачатку дзевяностых гадоў дваццатага стагоддзя.

Знаходзячыся ў аддаленні ад родных гоняў, Максім Гарэцкі заставаўся тым жа беларусам, якім ён быў і тады, калі са сваімі старэйшымі крыху калегамі ўдзельнічаў у актывізацыі руху беларускага адраджэння. Гвалтоўна перарваны, нішчаны паўсядзённа гэты рух дужа балюча адгукаўся ў душы пісьменніка. І там, ужо асуджаны на пакланенне бездухоўным сілам энкавэдзістаў, пісьменнік не страчваў годнасці, а выказваў сваю пазіцыю, сваё разумение нятленных працэсаў адраджэння.

У мастацкіх творах, што вярнуліся з небыцця толькі ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя, Максім Гарэцкі сцвярджаў магчымасці нацыянальнага існавання толькі ў тым выпадку, калі ўсе людзі зразумеюць сваю адказнасць за будучыню. Ён заклікаў да актыўнасці, да патрабаванняў права на ўласнае вызначэнне сваёй дзяржаўнасці, увогуле свайго жыцця. Ці не гэта як раз так дужа і палохала бальшавіцкую сістэму, бо ў многім такі аспект моцна падрываў ідэю стварэння чырвонай імперыі. Сёння варта ўздымаць пытанне пра выданне поўнага Збору твораў пісьменніка, бо ўсё тое, што часткова апублікавана ў перыёдыцы ў дзевяностыя гады, а таксама шматлікія архіўныя матэрыялы павінны быць даступнымі як навуковай інтэлігенцыі, так і масаваму чытачу.

У гэты час М.Гарэцкі напісаў раман "Віленскія камунары", прадаўжаў працу над "Камароўскай хронікай". Гэтыя вялікія творы пэўнага эпапейнага характару сёння добра вядомыя, хоць і патрабуюць новага асэнсавання. Пакуль застаюцца амаль не ўключанымі ў літаратурны працэс яго арыгінальныя творы, напісаныя ў жанры невялікіх эцюдаў, але аб'яднаныя адзінай філасофскай ідэяй, – гэта "Скарбы жыцця", "Лявонус Задумекус", "Кіпарысы".

У высылцы М.Гарэцкі быў кінуты ў невыносныя ўмовы. Цяжка было нават знайсці прытулак, бо ўладу гэта зусім не клапаціла: жывi хоць пад плотам, але два разы на месяц прыходзь у камендатуру адзначацца, што яшчэ жывы, што не знік. Ледзь уладкаваўся на працу чарцёжнікам (выручыла першая спецыяльнасць, атрыманая ў Горацкім каморніцкім вучылішчы), пра ўсё гэта па магчымасці ён паведамляў у лістах да жонкі, Леанілы Чарняўскай, таксама беларускай пісьменніцы. У Мінску яна таксама засталася без працы, таму што была жонкай ворага народа. Таму ён пасылае частку невялікага заробку ў Мінск – хоць на дровы, каб не замёрзлі халоднымі зімамі. Але галоўным для яго заставалася творчасць. І калі ў "Віленскіх камунарах" ён адкрыта выяўляў сваю прыхільнасць да рэвалюцыйных пераўтварэнняў, бо лічыў гэты твор у пэўнай ступені рэабілітацыйным, спадзяваўся надрукаваць, то ў іншых творах карыстаўся іншасказальнасцю, ад усіх складаных праблем імкнуўся поўнасцю забыцца ў творчасці, дзе адчуваў сябе больш свабодным. Гэты недаступны ўнутраны свет ён назваў выспай Патмос, куды і ўцякаў ад усіх жыццёвых згрызот.

*"...І пайшоў, на высокую наспу ўзлез, на беражку сядзеў, сядзеў нерухома...Адзаду ў мяне былі паселішчы далёкіх каланістаў, і ўсё было там у бясплоднай зеляніне, з разбуранымі шапкамі старых бажніц.*

*А спераду, перад зрокам маім, было сонейка на захадзе – там, дзе мой дом, дзе мой род, дзе шляхі мае мінулыя...*

*Страшэннае дзіва закрычэла прарэзліва і загрукатала міма мяне шумам жыцця вялікім...*

*Едуць, едуць паязджане! Едуць, едуць госці дарагія! У кашулях вышываных...Круглымі вачыма глядзяць. Пахам тлену павеяла на мяне".*

Гэта роздумы не толькі над уласным лёсам, але і пра шлях усяго народа, яго сучаснасці і будучыні. Гэтыя літаратурна-філасофскія запіскі М.Гарэцкага можна ўспрымаць як прамежкавы момант вызначэння Беларускага шляху, акрэсленым пачаткова вядомым вершам "Паязджане" Янкі Купалы на пачатку XX стагоддзя і прыпавесцю Васіля Быкава "Пахаджане" на пачатку XXI стагоддзя. Горка, вядома, усведамляць, што гэты шлях заўсёды нейкімі зламыснымі сіламі абрываецца на самым пачатку, змушаючы ўсё рабіць знава.

Успрыманне рэчаіснасці, тых абставін, у якія трапіў пісьменнік, перадае ён праз асэнсаванне вымышленага героя Лявонуса Задумекуса, запісанага на лацінскае гучанне, відаць і таму, што гэта аўтабіяграфічны герой, які дзейнічае ў многіх творах пісьменніка, у тым ліку і ў мастацка-дакументальнай аповесці *"На імперыялістычнай вайне: Запіскі салдата 2-ой батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы".* Больш аптымістычна разважае Задумекус ужо

# Нашы юбіляры



► Споўнілася 105 год Янку (Івану Захаравічу) ШАРАХОЎСКАМУ – празаіку, крытыку, літаратуразнаўцу.

Нарадзіўся 20 лютага 1908 г. у сялянскай сям'і ў г.п.Бялынічы Магілёўскай вобласці. У 1925-1927 гг. вучыўся ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме, у 1931 г. скончыў Ленінградскі гісторыка-лінгвістычны інстытут. Працаваў у рэдакцыях беларускіх часопісаў і газет, вучыўся ў аспірантуры. У час Вялікай Айчыннай вайны ваяваў пад Масквой, на Бранскім, 2-м Прыбалтыйскім, Ленінградскім франтах як камандзір узвода, з 1943 г. – інструктар франтавой газеты. Пасля вайны – адказны сакратар часопіса «Полымя» (1946-1948), галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР (1948-1957), намеснік міністра культуры БССР (1957-1959), галоўны рэдактар газеты « Літаратура і мастацтва » (1959-1961), дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы (1961-1968).

У друку пачаў выступаць як паэт, а з 1931 г. – як крытык і літаратуразнавец. Выдаў кнігі пра жыццё і творчасць Я.Купалы «Янка Купала», «Пясняр народных дум». Аўтар зборнікаў апавяданняў «Срэбраная раніца», «Сплочаны доўг», кнігі апавяданняў для дзяцей «Сердалікавая бухта».

Пераклаў на беларускую мову творы М.Салтыкова-Шчадрына,І.Тургенева, У.Караленкі, І.Франка, Ф.Гладкова, М.Шолахава і інш. Памёр 6 красавіка 1973 г.



► Споўнілася 75 год Ізяславу Рыгоравічу КАТЛЯРОВУ – паэту.

Нарадзіўся 21 лютага 1938 ў г. Чавусы Магілёўскай вобласці. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў Магілёве. Пасля заканчэння 7 класаў І.Катляроў працаваў на абутковай фабрыцы, адначасова вучыўся ў вячэрняй школе. У 1960 г. паступіў на вячэрняе аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ. Вучобу сумяшчаў з працай у геадэзічнай канторы Мінгарвыканкама і газеце "Заходняя траса". Пасля заканчэння ўніверсітэта з 1966 г. жыве ў Светлагорску Гомельскай вобласці. Працаваў у раённай газеце "Агні камунізму" карэспандэнтам, адказным сакратаром, намеснікам рэдактара. 16 гадоў узначальваў Светлагорскую карцінную галерэю "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава, адным з заснавальнікаў якой з'яўляецца. Неаднаразова абіраўся дэпутатам гарадскога Савета, быў кіраўніком раённай арганізацыі Саюза журналістаў, першым старшынёй раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы, кіраўніком раённага літаратурнага аб'яднання.

З 1990 года – член Саюза пісьменнікаў СССР. Цяпер – член Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза расійскіх пісьменнікаў. Аўтар 24 паэтычных кніг. Пераклаў на рускую мову творы Р. Барадуліна, П. Панчанкі, А. Грачанікава, В. Шніпа і іншых.

У 2001 г. І.Катлярову прысвоена званне Ганаровага грамадзяніна горада Светлагорска.

# Нарадзіліся ў лютым

► 1 лютага 1952 г. у п.Ялізава Асіповіцкага раёна нарадзілася Людміла Фёдараўна ПАЎЛІКАВА – паэтэса.

► 5 лютага 1912 г. у в.Шасцёраўка Клімавіцкага павета нарадзіўся Клім Лазаравіч ГРЫНЕВІЧ – паэт.

► 5 лютага 1935 г. у в.Бродак Крычаўскага раёна нарадзіўся Апанас Паўлавіч ПАЛІТЫКА – празаік, паэт.

► 14 лютага 1937 г. у в.Сычын Слаўгарадскага раёна нарадзіўся Міхась Лявонавіч СТРАЛЬЦОЎ – празаік, паэт, перакладчык.

► 14 лютага 1941 г. у в.Выдранка Краснапольскага раёна нарадзілася Марыя Фёдараўна ШАЎЛОЎСКАЯ – літаратуразнавец, крытык.

► 17 лютага 1955 г. у г.п.Дараганава Асіповіцкага раёна нарадзілася Галіна Паўлаўна ТВАРАНОВІЧ – паэтэса, літаратуразнавец.

# Нарадзіліся ў лютым

► 19 лютага 1861 г. у в.Забялышын Клімавіцкага павета нарадзіўся Якуб (Якаў Раманавіч) БРАЙЦАЎ – паэт, празаік, драматург.

► 19 лютага 1914 г. у г.Бабруйск нарадзіўся Генадзь Барысавіч ШВЕДЗІК – паэт

► 25 лютага 1920 г. у в.Альшоў Хоцімскага раёна нарадзіўся Пятро Фёдаравіч ПРЫХОДЗЬКА – паэт.

► 25 лютага 1957 г. у в.Іванаўка Касцюковіцкага раёна нарадзіўся Алесь Уладзіміравіч ПІСЬМЯНКОЎ – паэт.

# А ўсё ж жыццё мацней

Тады, калі М.Гарэцкі адбыў яму вызначаны тэрмін пакарання і атрымаў права выкладаць літаратуру ў сярэдняй школе, хоць няпэўнасць у свaім лёсе так і заставалася. Дарэчы, яго напрацоўкі пра рускую літаратуру XIX стагоддзя, матэрыялы падрыхтоўкі да ўрокаў маюць сваю каштоўнасць, бо таксама выяўляюць творчую індывідуальнасць пісьменніка, таксама павінны быць выдадзены сярод іншых літаратуразнаўчых прац М.Гарэцкага.

Трывожнасць лёсу заставалася. *"Па абедзе ўвечары раптам вельмі сумна зрабілася блазеннаму. Што рабіць, за што ўзяцца? Паласа няўдач і цяжкага настрою. Няўжо блізка смерць? Разгадка тайны… Сляза сплывае з вачэй перад смерцю, без слоў, з адною тугою маўкліваю, у думках".*

Прадчуванні спраўдзіліся. У пачатку лістапада 1937 года М.Гарэцкі быў арыштаваны, расстраляны 10 лютага 1938 года ў Вязьме, хоць за восем дзён да 45-годдзя, хоць улады крывадушна на паведамлялі сям'і значна пазней, што пісьменнік памёр у 1939 годзе ў Камлагу.

Літаратурная спадчына Максіма Гарэцкага жыве.

**Яраслаў КЛІМУЦЬ.**

# Пасяджэнне Рады

14 лютага адбылося пасяджэнне Рады ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". На павестцы дня былі: разгляд кандыдатур на ўступленне ў сябры СБП, справаздача Старшыні пра дзейнасць грамадскай арганізацыі за апошнія паўгода, а таксама рознае.

На Радзе былі разгледжаны чатыры кандыдаты



Генадзь Бураўкін зацікавіўся новай кнігай...



Уладзімір Някляеў і Леанід Дранько-Майсюк



Святлана Багданкевіч



Анатоль Брусевіч



Воля Чайкоўская



Віталь Еўмяньkoў



Барыс Пятровіч

на ўступленне ў ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" – Святлана Багданкевіч, Анатоль Брусевіч, Воля Чайкоўская і рэкамендаваны Магілёўскім абласным аддзяленнем пісьменнік, літаратуразнаўца Віталь Еўмяньkoў. У межах Рады пра спадара Віталя распавялі Мікола Яцкоў, Віктар Слінка, Ірына Багдановіч. Падліковая камісія ў складзе С.Законнікава, Г.Далідовіча і В.Жыбуля вызначыла, што ўсе кандыдаты прынятыя ў сябры СБП аднагалосна.

Старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Барыс Пятровіч агучыў справаздачу пра дзейнасць грамадскай арганізацыі. Асаблівая ўвага была звернута на абласныя аддзяленні СБП (іх пяць: Магілёўскае, Гомельскае, Гарадзенскае, Берасцейскае, Віцебскае), у кожнага з якіх мусіць быць свой літаратурны альманах. У Магілёве выходзіць інфармацыйны бюлетэнь "Дняпроўская строма", у Берасці — альманах "Жырандоля", у Гродне нядаўна выйшаў першы нумар выдання "Новы Замак".

Акрамя выдавецкай дзейнасці СБП Б.Пятровіч закрануў арганізацыю заняткаў Школы маладога пісьменніка, правядзенне конкурсу імя Янкі Маўра.

У наступным годзе ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" адзначыць 80 гадоў з дня заснавання. Да юбілейнай даты рыхтуецца адмысловы літаратурна-фатаграфічны праект, каляндар "Беларускі фальклор".

Сярод важных задач — наладжванне супрацоўніцтва з пісьменніцкімі арганізацыямі іншых краін, удзел СБП у літаратурных прэміях ("Дэбют", "Залаты апостраф", Ежы Гедройца), правядзенне літаратурных фестываляў (памяці Стральцова, Сыса, Мацяш).

На Радзе разглядаліся таксама пытанні, датычныя сяброўства ў СБП Юрася Пацюпы, Наталлі Якавенка, а таксама Васіля Якавенкі. За адсутнасцю кворуму рашэнне Рады было адкладзена, абмеркаванне перанесена на наступнае пасяджэнне.

*Паводле Прэсавай службы СБП.*

# Сустрэча ў Бабруйску

11 лютага ў Бабруйску адбылася творчая сустрэча з пісьменнікам, намеснікам СБП Алесем Пашкевічам і з вядомым бардам Алесем Камоцкім.



Сустрэча была пабудавана па прынцыпе «змяняльнасці»: Пашкевіча змяняў Камоцкі і – наадварот.

Спачатку Алесь Пашкевіч прэзентаваў публіцы свой новы раман – «Сімъ побѣдиши». Распавёў пра нядаўна выдадзеную кнігу, у якую, акрамя названага рамана, увайшло яшчэ адзінаццаць эсэ. Расказаў пра гісторыю стварэння «Сімъ побѣдиши», а потым прачытаў урывак з яго.

Як адзначыў пісьменнік, характарызуючы свой твор, «Сімъ побѣдиши» – пра ўладу тыранаў і ўладу слова. Расповед у ім вядзецца ў двух часавых зрэзах – у 16-м стагоддзі (часы Івана Грознага) і ў нашы дні».

*«Як паказвае гісторыя, паміраюць усё. І нават такія тыраны, як Іван Васільевіч, Іван Чацвёрты, Іван Грозны»* – рэзюмаваў у канцы чытання пісьменнік.

Пазней Пашкевіч прачытаў таксама сваё знакамітае эсэ «Яна» – пра «гістарычнай» ролі... бульбы, аб тым, што яна «робіць» з чалавекам і народам...

Алесь Камоцкі выканаў некалькі «перакладзеных» на беларускую мову папулярных савецкіх шлягераў, такіх, як «Ляцяць пералётныя птушкі», «Круціцца, круціцца шар блакітны» і іншых. Прагучалі таксама песні на словы беларускіх і рускіх паэтаў. Бард распавёў пра свае паэтычныя зборнікі і дыскі, якія выйшлі ў мінулыя гады.

Размаўляючы з публікай, адказваючы на пытанні «з залы», госці шмат жартавалі, што стварала асаблівую, сяброўскую атмасферу.

За лепшыя пытанні бабруйчане атрымалі з рук А.Пашкевіча і А.Камоцкага невялікія прызы. Скончылася сустрэча «аўтограф-сэсіяй».

**Анатоль САНАЦЕНКА.**

Фотаздымкі аўтара.



Алесь Камоцкі



Алесь Пашкевіч

# БЕЛАРУСКАЕ ПЯЦІБОРСТВА НУМАР ТУЗІН

З 2001 года ў Магілёве праводзіцца інтэлектуальнае спаборніцтва для школьнікаў “Беларускае пяціборства” як супольны праект абласной арганізацыі ТБМ і ўніверсітэта імя А.Куляшова. Калі старшакласнікі вобласці збіраюцца ў студзені на абласныя прадметныя алімпіяды, ім прапануецца паўдзельнічаць і ў пяціборстве, якое знешне нагадвае алімпіяду, толькі тут спаборніку трэба выявіць шырыню сваіх ведаў, бо трэба выканаць заданні па матэматыцы, гісторыі Беларусі, беларускай мове, літаратуры і прыродазнаўстве. Афармляць адказы трэба на беларускай мове. Па суме пяці балаў і вызначаюцца пераможцы.

Штогод 20-40 навучэнцаў школ, гімназій і ліцэяў вобласці выказваюць жаданне пазмагацца за прызы беларускага пяціборства. У гэтым годзе спаборніцтва адбылося 16 студзеня і 25 лютага праведзена цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў.

Трэцяе месца заняла васьмікласніца магілёўскай гімназіі № 1 Марыя Пілецкая. Яна не змагла развязаць матэматычныя задачы, але паказала высокія вынікі ў мове і літаратуры (настаўніца – Ганна Бандарэнка), чым і заслужыла свой прыз. Марыя атрымала і адмысловы прыз за лепшы адказ на пытанне па літаратуры. Такі ж прыз уручаны яе аднакласніку Зміцеру Юркову. Другое месца ў адзінаццацікласніцы бабруйскай гімназіі № 3 Настассі Жыркевіч. Наста ўвогуле застанецца легендай беларускага пяціборства, бо ўдзельнічала ў гэтым спаборніцтве чатыры разы і кожны раз займала прызавыя месцы – два першых месцы (2010 і 2012) і два другіх (2011 і 2013). На гэты раз яна прывяла з сабой сястру Ангеліну, васьмікласніцу той жа гімназіі. І малодшая перамагла, атрымаўшы больш высокія балы, чым у старэйшай сястры, па ўсіх намінацыях, акрамя мовы. У Насты ж па мове самы высокі бал і яна атрымала таксама адмысловы прыз за лепшую мову. Ангеліне Жыркевіч, акрамя галоўнага прыза, уручаны адмысловы прыз за лепшыя адказы на пытанні з прыродазнаўства. Гэткі ж прыз атрымаў васьмікласнік магілёўскай гімназіі № 1 Алесь Гаўрыленка.

(Заканчэнне на с.8)



Пераможцы “Беларускага пяціборства”



Старшыня журы інфармуе прысутных



Ангеліна Жыркевіч - пераможца.



Дыплом уручае дэкан Аляксей Лаўшук



Наста Жыркевіч - 2-е месца.



Узнагароджваюць Яраслаў Клімуць і Аляксей Лаўшук



Марыя Пілецкая - 3-е месца.



Вітальнае слова Міхася Булавацкага



Алесь Гаўрыленка - лепшы знаўца прыроды



Ягор Лаўрэнаў - лепшы матэматык



Зміцер Юркоў - лепшы знаўца літаратуры

# Размова аб надзённым

*24 лютага 2013 года адбылося чарговае пасяджэнне магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".*



Хвілінай маўчання была ўшанавана памяць сябра СБП Івана Аношкіна, які памёр 3 лютага. Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу па выніках дзейнасці суполкі за мінулы месяц. Быў зроблены агляд публікацый сябраў аддзялення ў абласным і рэспубліканскім друку. Таксама былі прэзентаваны новая кніга слаўгарадскага пісьменніка, сябра СБП Фелікса Шкірманкова “Кантрольны маршрут” і кніга магілёўскага пісьменніка Алеся Казекі “Марыйка”, у падрыхтоўцы да выдання якой вялікі ўнёсак зрабілі сябры СБП Сяргей Украінка і Мікола Яцкоў.

Былі разгледжаны прапановы па ўдасканаленні працы аддзялення і іншыя пытанні дзейнасці мясцовай пісьменніцкай арганізацыі.

У пасяджэнні прыняў удзел кіраўнік літаратурнага гуртка магілёўскага гараскога аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Аляксей Карпенка.

**Аліна САВІЦКАЯ.**

Фотаздымкі Алега Пячэнькі, Міколы Яцкова і Алы Яцковай.



Мікола Яцкоў



Яраслаў Клімуць



Сяргей Украінка



Аляксей Карпенка



Тамара Аўсяннікава



Міхась Булавацкі



Таццяна Барысік



Ала Яцкова

# 21 лютага - Міжнародны дзень роднай мовы

## Сустрэча ў Княжыцах

21 лютага 2013 г. у школе вёскі Княжыцы Магілёўскага раёна ў рамках святкавання Дня роднай мовы адбылася сустрэча з пісьменнікамі – старшынёй Магілёўскага аддзялення ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” Міколам Яцковым і сябрам ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі” Алесем Казекам. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Наталля Ігараўна Чабан прадставіла гасцей. Прысутныя з цікавасцю паслухалі выступы М.Яцкова і А.Казекі. Спецыяльна для запрошаных літаратараў гучалі іх вершы у выкананні вучаніц Марыі Гарбаценка і Марыі Тукаленка. Было шмат пытанняў – аб роднай мове і літаратуры. Напрыканцы ўсе дружна спявалі песні на вершы Якуба Коласа і Янкі Купалы. І было выказана ўзаемнае пажаданне часцей сустракацца – каб разам ісці да мовы і беларускай свядомасці.



Наталля Чабан



Марыя Гарбаценка





Марыя Тукаленка



Алесь Казека



Спяваюць Ала і Мікола Яцковы

*Аліна САВІЦКАЯ.*

Фотаздымкі Зміцера Кузняцова.



## Размаўляй са мной па-беларуску!

21 лютага 2013 г. магілёўская гарадская бібліятэка імя К.Маркса правяла вечарыну «Размаўляй са мной па-беларуску”, прысвечаную Дню роднай мовы. На вечарыну былі запрошаны пісьменніцы, сябры ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” Тамара Аўсяннікава і Таццяна Барысік. Яны выказаліся за тое, каб родная мова няспынна ўваходзіла ў наша жыццё, паступова і незваротна займаючы сваё пачэснае месца. Прысутныя з вялікім задавальненнем паслухалі творы ў аўтарскім выкананні.



Тамара Аўсяннікава





Таццяна Барысік

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

Фотаздымкі Ірыны Ціняковай.

## Сустракалі ліцэісты



У Міжнародны дзень роднай мовы сябра СБП Тамара Аўсяннікава выступіла ў Магілёўскім дзяржаўным абласным ліцэі № 2. Адзінаццацікласнікі ўважліва слухалі яе вершы і абразкі, праявілі вялікую цікавасць да жыцця і творчасці. Пасля заканчэння сустрэчы ў аматараў паэзіі было яшчэ шмат прафесійных пытанняў да пісьменніцы. *Т.М.*



## З вершамі – у школу

У межах тыдня роднай мовы 13 лютага 2013 г. адбылася сустрэча пісьменніка, сябра ГА “ Саюз беларускіх пісьменнікаў” Фелікса Шкірманкова з вучнямі сярэдняй школы вёскі Лапацічы Слаўгарадскага раёна. Фелікс Уладзіміравіч распавёў прысутным пра значэнне роднай мовы ў нашым жыцці, пра неабходнасць больш шырока яе ўжываць у паўсядзённасці. Гучалі вершы паэта-франтавіка ў аўтарскім выкананні. Было шмат пытанняў, на якія былі дадзены змястоўныя і цікавыя адказы. Гэта ўжо не першая сустрэча Ф.Шкірманкова з лапаціцкімі школьнікамі, і такія паэтычныя вечарыны будуць тут ладзіцца і надалей.



*Мікола ЯЦКОЎ.*

# 21 лютага - Міжнародны дзень роднай мовы



21 лютага 2013 г. у магілёўскім дзяржаўным бібліятэчным каледжы імя А.Пушкіна адбылася вечарына, прысвечаная творчасці вядомага магілёўскага пісьменніка Івана Аношкіна. Яе бліскуча правяла вядучы бібліятэкар бібліятэкі каледжа Ганна Мядвецкая.

Успамінамі пра Івана Архіпавіча, які, на вялікі жаль, нядаўна пайшоў ад нас, падзяліліся сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў Яраслаў Клімуць і Мікола Яцкоў, а таксама калега па сумеснай працы журналіст Мікалай Ножнікаў. Добрыя словы сказаў старшыня магілёўскага аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Алег Дзьячкоў. Пад кіраўніцтвам рэжысёра Лідзіі Сахон навучэнцы каледжа падрыхтавалі інсцэніроўкі апавяданняў Івана Аношкіна, і было бачна, што творчасць гэтага цікавага пісьменніка ім даспадобы, а вечарына зойме сваё месца ў скарбонцы нашай агульнай памяці.

*Міхась БАРАЗНА.*





*Яраслаў Клімуць*



*Мікалай Ножнікаў*



*Алег Дзьячкоў*



*Мікола Яцкоў*



*Інсцэніроўка апавядання Івана Аношкіна*



*Тэлекампанія "Магілёў - 1" здымае рэпартаж.*

Фотаздымкі Алы Яцковай, Міколы Яцкова і Кацярыны Саламянікавай



*Фотаздымак на ўспамін. Першая злева - Лідзія Сахон*




*Паэт Алесь КАЗЕКА выпусціў асобным выданнем сваю новую паэму "Марыйка". Прапануем вашай увазе урывак з гэтага твора.*

1.
Крылаў неба бяскрайні размах
Агарнуў залацістае ранне.
Гэта, цемры адкінуўшы жах,
Новы дзень завітаў на спатканне.

Ад пустынь да паўночных снягоў
Свет абняты святломаднаўлення
І салоўка – псаломшчык яго –
Зноў спявае жыццю бласлаўленне.

Яму з высі туруе жаўрук,
На званочках спаўняючы трэбы.
І, як мноства працягнутых рук, –
Прамяні ад зямлі і ад неба…
2
Але што гэта?.. Што гэта? Што?!
Разарваўшы з'яднанае неба,
Чорны воран сталёвым крылом
Разануў па псаломах і трэбах.

Уварваўшыся ў гэты разлом
З даляў вонкавых Божага свету,
Неразбаўленай цемрадзі зло
Коўдрай смерці накрыла планету,

Каб ізноў наталіцца спаўна
Чалавечых пакутаў гаркотай.
І жыццё раздзяліла вайна
На шчымлівае "ДА…" і на "…ПОТЫМ".
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3
Разарваны з'яднаныя рукі
І знясілеў у роспачы дол.
І з надрывістым выючым гукам
Смерць засеў пачала навакол.

Загудзела зямля, застагнала.
Без аратых самлелі палі.
Гора ў кожны куток завітала,
Зазірнула да кожнай сям'і.

З болем, змоўкла наўколле сурова
Да пары. А праз некалькі дзён
Загучала нямецкая мова
Нібы здзек... ці пякельны праклён.

II
*15 чэрвеня 1942. Дарога Юзін – Боркі*
1
На палях васільковая квецень,
Лета песціцца ў промнях спаўна.
І, здаецца, не ў гэтым сусвеце
Жне бязвінныя жыцці вайна…

Ды ўжо год яна топіць краіну
У струменях разлітай крыві.
А на драбах змарнелых руінаў
Крумкачы свае гнёзды звілі.

Зараслі сенажаці і гоні.
Толькі быльнік ды выспы магіл.
Толькі вецер з пажарышчаў гоніць
Чорна-шэры, уедлівы пыл.

Дзе ж твае працалюбы-ратаі?
Дзе ж, зямелька, руплі́ўцы твае?..
Цішыня… Толькі воўчыя зграі
Дораць сумныя песні свае.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
2
А на выспе, дзе ў схове часовым
У Марыйкі ёсць месца сваё,
Супакой, толькі вухкаюць совы,
Ды няспынна гудзіць камар'ё.

Па начах ёй пачуць ужо звычна,
Як лясны забаўляецца дух.
Глупства ўсё, калі вуха казыча
І лагодзіць бацькоўскі кажух.

А сяннік асакою шапоча,
Быццам хоча пра штось расказаць.
Што за тайну ён выказаць хоча?..
"Заўтра трэба мне раненька ўстаць!

Да сястры кіламетраў пад дзесяць.
Дык пакуль я да іх дабягу,
Покуль з Шуркам пагутару, з дзецьмі…
Толькі к ночы вярнуцца змагу.

А спатрэбіцца – там застануся.
Што мяне тут трымае адну?
За пажыткамі толькі вярнуся,
Можа, потым. Ды што тут? А ну…"

3
Развіднела. Ужо над чаротам
Дзень абдымкі свае расхінуў.
Цемень рвецца, спаўзае ў балота,
У дурманлівы пах багуну.

Час ісці.
І гарэзлівым ранкам,
Праганяючы сон пакрысе,
Ціха выйшла Марыйка з зямлянкі
І пайшла басанож па расе.

Па сцяжынцы, зусім непрыкметнай,
Праз мядовы хвалюючы пах.
І ўсміхаліся дрэвы прыветна
Захапленню ў дзявочых вачах...

# Перамагчы

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

«У з'яўленні палтэргейсту могуць быць вінаваты язычніцкія пахаванні» — артыкул раёнкі пад такою назваю трапіў мне на вочы ціхаю летняй ранічкай, каб змяніць жыццё назаўжды.

Тады я ні пра што такое і блізка не магла здагадацца. Проста позірк зачапіўся за чарнічны россып літараў і ўжо не здолеў адпусціць той газетны радок. «У з'яўленні палтэргейсту вінаваты язычніцкія пахаванні — да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі абласной газеты «Дняпроўскія хвалі». Нагадаем, у ноч на дзясятае ліпеня ў доме па завулку Кастрычніцкім рабіліся дзіўныя рэчы: са столі то лілася вада, то сыпаўся пясок, самастойна перамяшчалася мэбля, загараліся фіранкі. Як паведаміла дырэктар краязнаўчага музея Анціпенка С., некалькі год таму непадалёк ад завулка, на беразе ракі Вільчанкі былі знойдзены старажытныя пахаванні II—III стст. н. э. , што ўтваралі сабою кола, у цэнтры якога, магчыма, знаходзіўся ідал і праводзіліся рытуальныя ахвярапрынашэнні», — чытала я, і абурэнне скаланала мяне. Канечне, нават па гэткім пытанні ўласных думак няма, абавязкова з вышэйстаячай інстанцыяй параіцца трэба! Усё яны ў вобласці лепей за нас ведаюць — і хто вінаваты, і дзе ідал у II ст. нашай эры стаяў. Які б бязмен з вобласці ці сталіцы ні прыехаў — ён тутака і найвышэйшы суд, і першы разумнік, і ледзь не намеснік Бога на зямлі.

«Не выключана, што палтэргейст звязаны са старажытнымі могілкамі. Ніякіх рацыянальных тлумачэнняў няма», — запэўнівала раёнка.

«Ёсць! Ёсць! Ёсць!» — затахкала раптам у скронях. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна — нечаканае прызнанне ўсплыло словамі калектыўнай споведзі ў касцёле. А ў памяці паўстаў той спякотны травеньскі дзень, за які да сёння сорамна.

Высокае блакітнае, яснае аж да рэзі ў вачах неба. Сонца паліць, асфальт, як патэльня. Гарадскі парк адпачынку. Рэзкі гарлавы вокліч, паўсотні ног, нібы адбіваючы нейкі вар'яцкі рытм, крочаць па зачараваным коле. Грукочуць, грукочуць нешта забытае, нетутэйшае барабаны. Змярцвелая сцішанасць. Напаказ, буйным квеценем, быццам у апошні раз, красуе старая яблыня. Пісягі чужое крыві на дзіцячых шыях. Вялізная шыльда з надпісам. «Дзень піянерскага сяброўства. Агляд сцягавых груп». Дзяўчынка гадоў дзесяці — ёй бы лялькам косы заплятаць — страявым крокам з каменным выразам твару шыбуе да стала ў цэнтры. Смірна! Рука да пілоткі. Рапарт. Вольна!

## Абрад нетутэйшай ініцыяцыі ў Беларусі. I я, саўдзельніца чужынскага дзікунства

Ля стала стаяць бы старажытныя ёлупні чальцы камісіі. Кіраўнік усіх піянераў раёна Ніна Раманаўна, мажная цётка з чырвоным тварам, мужна перамагаючы цяжкасці міжзапойнага перыяду, паблажліва ўсміхаецца: «Малайчына, і я з гэтага пачынала. Да сканчэння школы яшчэ лепш маршыраваць навучышся!» Старшыня ветэранскай арганізацыі, бадзёры дзядок гадоў сямідзесяці (цікава, у якой вайне ўдзельнічаў), паціскае дзяўчынцы руку і ўручае дыплом пераможцы: «Расце змена!»

А я, педагог-арганізатар прыгараднай школы, хаваюся ля яблыні. Мае вусны шапочуць як мантру: «Тая ж выхаваўчая работа, тая ж выхаваўчая работа». Мае глузды ўпершыню адмаўляюцца гэта слухаць і ніяк не могуць дапяць, дзе ж мае вочы ўжо бачылі ўсё гэта. Ага, спапяляючая гарачыня. Ахвярная кроў на руках і шыях хударлявых падлеткаў. Іх ногі зладжана рухаюцца па коле. Гэткія ж гарлавыя воклічы са змярцвелым маўчаннем мяжуюцца. Вялізныя тамтамы ва ўсю моц б'юць. Нават дрэва збоку ёсць. Не яблынька ў квецені, а нешта на акацыю падобнае ці на баабаб... Тэлеперадача «Клуб кінападарожнікаў» прысвечаная традыцыям дзікіх афрыканскіх плямёнаў.

Абрад нетутэйшай ініцыяцыі ў Беларусі. I я, саўдзельніца чужынскага дзікунства, у белую блузачку ўстроілася. Хоць ільвіная грыва або футра якой гіены былі б больш дарэчы.

Адразу прыгадалася піянерскае дзяцінства сярэдзіны васьмідзясятых. Хлусня і страх — тая ж выхаваўчая работа. Нейкі ідыёцкі парад у трэцім класе. Я крочу ў форме, якая нагадвае марацкую, на галаве — дзіўны ўбор накшталт бесказыркі. Ён вось-вось зваліцца долу, я ж баюся гэтага больш за ўсё на свеце: тады нам здымуць нейкія балы і мяне ўзненавідзяць праз тую клятую шапку, як узненавідзелі дзяўчынку з 4 «Б», што плача ля сценкі... Усё-такі добра, што тая піянерыя ляснулася! Ужо праз якія два-тры гады пераканаць мяне збіраць макулатуру, то бок бясплатна валтузіцца з бруднай паперай, або насіць піянерскі гальштук не здатныя былі ані ўхвала, ані пагрозы.

I вось на табе — мінула дзесяць-дванаццаць год і я сама рыхтую вучняў да ўдзелу ў дзікунстве раённага маштабу! Чаму абрала такую работу? Ды гэта работа абрала мяне!

Хаця я і не была актывісткаю ў школьныя гады, але вучылася амаль на выдатна. Вось і паслалі мяне ад раёна па мэтавым накіраванні ў Інстытут культуры. Адвучылася. Вярнулася. А тут за пяць год усё перайначылася. У ДК людзей хапае, гурткоў больш як гурткоўцаў, у аддзеле культуры спрэс працоўныя дынастыі... Тады ў райвыканкаме прапанавалі ў школу, педагогам-арганізатарам: маўляў, будзеш дыскатэкі ды ранішнікі ладзіць. Я пагадзілася — куды дзявацца. А пра піянераў ужо на месцы дазналася.



«Тая ж выхаваўчая работа», — запэўніла завуч, пабачыўшы мой спалоханы позірк. Я ж верыла, што ўся тая лажа даўно ў мінулым... Аж не! На сценах піянерскага пакоя — тыя ж міфалагічныя істоты, запомніць якіх праз адсутнасць індывідуальных рысаў у іх аблічах я так і не здолела. I чаму на розных партрэтах Паўлік Марозаў ды Марат Казей па-рознаму выглядаюць? Мо таму, што насамрэч такіх людзей не было ніколі?

Пачала працаваць. Спачатку нават падавалася, што праца карысная. Ладзіла бясконцыя Дні: ведаў, касманаўтыкі, непалення, барацьбы са СНІДам, канстытуцыі, вываду войскаў з Афганістана, здаровага ладу жыцця, савецкай арміі, дарожнага руху, маці, 8 сакавіка, святога Валянціна і халера ведае чаго яшчэ. Павязвала разумнейшым вучням гальштукі і везла на раённыя конкурсы ды канцэрты. I, ведаеце, неяк удавалася ў плынь трапіць, ніводнага разу без прызавога месца не вярталіся.

Аднаго разу загадалі выпусціць насценгазету на ваенную тэматыку. «I калі ўжо тая вайна скончыцца», — стагналі настаўнікі. Я не стала маляваць сонечнага зайчыка і ляпіць яму на лоб фота мясцовага ветэрана, не перапісвала самастойна перадавіцу з раёнкі як арганізатар суседняе школы, а пайшла іншым шляхам. Памяняла ў той перадавіцы месцамі сказы, а перапісаць прымусіла вучаніцу — не дужа кемлівую, але старанную дзяўчынку, каб кідаўся ў вочы дзіцячы почырк. Апроч таго, унізе пазначыла выходныя дадзеныя органа друку. У выніку стала пераможцай, атрымаўшы саламяную ляльку ў падарунак!

Піянерскімі справамі ў раёне кіравала дваццацівасьмігадовая Ірачка. Караценькая спаднічка ў гармонік, заўсёдны піянерскі значак на камізэльцы, як гулліва сцвярджала яна сама — цудоўная нагода для знаёмства. Гэтая супрацоўніца аддзела адукацыі хутчэй нагадвала пераспелую васьмікласніцу і ніколі не забывалася нават на адказных мерапрыемствах у гонар Вялікай Айчыннай страляць вочкамі ў бок баяніста Лёнечкі. Але крыві асабліва не псавала. Крыху разззлавала толькі аднойчы, калі ў 25-градусны мароз запрасіла настаўнікаў з далёкіх вёсак на семінар, каб павучыць іх рабіць паштовачкі ў форме сэрца да Дня святога Валянціна.

Пасля Ірачка зацугляла Лёнечку і сышла ў дэкрэт. Вось тут і пачалося самае цікавае! На Ірачччыну пасаду прызначылі метадыста Ніну Раманаўну, адзіную жанчыну-ваенрука ў раёне. Здольнага арганізатара, фанатку піянерскай справы, што, апроч мужчынскае прафесіі, мела нязломны характар, суровую знешнасць, гучны нізкі голас і незвычнае для старой дзеўкі захапленне — чарку, часам некалькі дзён запар.

З яе прыходам вайна нібы разгарэлася з новай сілай. Сваю кар'еру ў далёкія васьмідзясятыя Ніна Раманаўна пачала піянерважатай вясковай школы, а вайсковую падрыхтоўку ўзялася выкладаць потым, скончыўшы тры курсы нечага завочнага і празмерна захапіўшыся маршыроўкай ды ганаровымі караруламі.

Яна пачала дзейнасць на новай пасадзе з сустрэчы важацкіх

# палтэргейст

пакаленняў. Звалакла аднекуль сяброў баявога юнацтва, з якімі разам у барабан лупіла, каб тыя павучылі нас працаваць. Сталы ламаліся ад закускі і выпіўкі, фуршэт зладзілі ў Доме дзіцячай творчасці. Забаўляльнай часткі мог нават сталічны цырк пазайздросціць! Падпітыя дзядзькі і цёткі шыхтамі хадзілі ў пілотках пад піянерскім сцягам і спрабавалі спяваць дзіцячыя песні часоў пачатку перабудовы.

А пасля былі бясконцыя навучанні сцяганосцаў, барабаншчыкаў, агляды песні і строю. Складалася ўражанне, што перад Днём Перамогі ўладу ў асобна ўзятым раёне захапіла ваенная хунта.

«Дзецям маршыраваць карысна, ля кожнага помніка героям вайны неабходна паставіць піянерскую варту». Чарговая дырэктыва Ніны Раманаўны выклікала нечуваную радасць у вясковых школьнікаў. Юныя вартавыя вызваляліся ад заняткаў і маглі гуляць у хованкі паміж магільных камянёў цёплымі вясновымі дзянькамі.

Але росквіт мілітарызму прыпаў на той дзень піянерскага сяброўства ў гарадскім парку.

Я не магла ачомацца яшчэ доўга. Самым брыдкім было ўсведамленне таго, што я і такія, як я, дапамаглі яму адбыцца. Празмерна паслухмяныя хлопчыкі і дзяўчынкі ссівелі, а дарослымі так і не зрабіліся. Ласыя на пахвальбу старэйшых па пасадзе, па званні, па веку — неістотна. Не разумелі? Не бачылі? Шчыра верылі ў сваю правільнасць? Былі і такія. Большасць жа проста сапла ў дзве дзіркі, прыняўшы правілы гульні: жыццё ў стане перманентнае ганьбы ўзамен на больш-менш забяспечаную старасць. Прыкінуліся ягадкамі-дурнічкамі! Тая ж выхаваўчая работа... Усё перамелецца — неяк будзе...

Не перамалолася! Чужынскія нячысцікі, гукамі тамтамаў пакліканыя, спачатку ў нашыя вантробы ўсяліліся, а потым пачалі і звонку бушаваць. Роўна праз сорак дзён пасля таго сатанінскага параду ў горадзе аб'явіўся палтэргейст. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна.

Скачуць, скачуць афрыканскія чэрці па нашай зямельцы, а мо гэта духі старога капішча з імі сілаю мераюцца? Мусіць абрыдла стагоддзямі глядзець, як кожнае заезджае быдла на іхняй бацькаўшчыне мала што прыжываецца, дык яшчэ і парадкі свае пачынае заводзіць.

З палтэргейстам трэба змагацца — але як? Наўрад ці на нетутэйшую субстанцыю падзейнічае царкоўны ладан. Дыхлафос таксама тут не памочнік. Нічога ж іншага я прыдумаць не змагла і таму звярнулася па параду да аднаго з самых дасведчаных людзей нашага горада ў справах цудадзейных рэчываў і анамальных з'яў.

Юра Хвост захапляўся ўсім, ад сатанізму да магіі, паліў усякую дрэнь, марыў з'ехаць у Тыбет, забіваў на вучобу і працу. Карацей, нефармал круцей няма куды — іракез на галаве, нагавіцы ў дзірках. Юрка адразу прапанаваў рашэнне — мясцовыя каноплі з гарода бабы Адэлі. Каноплі, гонкія як сосны, раслі ля ганка і пад вокнамі ў нашай сваячкі, якая жыла непадалёк ад райцэнтра ў спусцелай вёсцы. Лічылася, што яны добра адганяюць мух, каб не ляцелі ў сенцы. Я зрэзала адно каліва, наведаўшыся ў госці.

У азначаны дзень, напхаўшы сушаных канопляў у нейкія папяросы, Юркам прынесеныя, мы абкурылі ўвесь гарадскі парк, абышоўшы яго тройчы па гадзіннікавай стрэлцы і на ўсялякі выпадак супраць яе, са словамі: «Прэч, духі, прэч, тут людзі жывуць». Словы я чула ў нейкім фільме пра цёплыя краіны, з імі на вуснах вузкавокая, маршчатая як печаны яблык старая абыходзіла мазанкі.

Можа, мы і выглядалі вар'ятамі, але не больш чым тады, на сатанінскім парадзе. Ну, а каб канчаткова пазбавіцца ад палтэргейсту не толькі звонку, а і ў душы, я падала заяву на звальненне. У РАА , канечне, упіраліся: «Вы падумайце, Ніну Раманаўну ў вобласць збіраюцца пераводзіць, магчыма, на яе месца станеце. Маладая, перспектыўная...»

Ад перспектыў галава не закруцілася. Я была непахіснай. Прызвання да хлусні і выхаваўчай работы болей не адчувала. Палтэргейст — апошняя кропля. Вось і ўсё. Цяперака няхай вырабляюць што хочуць. Хоць сабе ў тамтамы ў парку лупяць, хоць пудзіла Паўліка Марозава на цэнтральнай плошчы паляць, маёй віны ў гэтым ужо не будзе.

Самае цікавае, што неадэкватныя захады супраць анамальнае з'явы далі плён. Вось ужо дзесяць, дванаццаць, нават пятнаццаць гадоў пра палтэргейст ніхто не чуў. Можа на бацькаўшчыну паляцеў, можа ў Юрыка Хваста ўсяліўся... Але цалкам верагодна, што ён калі-небудзь вернецца. Бо за гэтыя дзесяць-дванаццаць — не варта лічыць колькі — гадоў жыццё застыла. Нічога не змянілася за выключэннем дробных дэталяў у біяграфіях жыхароў нашага райцэнтра. Акалічнасцяў, амаль не заўважных староннняму воку.

Ніна Раманаўна з'ехала ў вобласць, і надалей яе сляды губляюцца. Пагаворвалі, што

## Празмерна паслухмяныя хлопчыкі і дзяўчынкі ссівелі, а дарослымі так і не зрабіліся

спілася дашчэнту, цягаючыся па піянерскіх святах ды камсамольскіх злётах. Метадыстка Ірачка пасля дэкрэту выйшла на працу, але Ірынаю так і не зрабілася, адразу пачала ператварацца ў Васільеўну. Яна ладна раз'елася і недзе збаёдала піянерскі значок. Вочкамі Васільеўна больш не страляе, наадварот, глядзіць пільна, каб Лёнечка не падгульнуў і не напіўся, таму лётае па доме творчасці як шалёная. Пагаворваюць, можа яшчэ ў другі дэкрэтны збярэцца.

Каноплі на падворку бабы Адэлі звяліся: старая сама іх зрэзала, бо наркоты ўвесь гарод стапталі. Як што якое — ратавацца ад палтэргейсту няма чым.

І, канечне, даўно сышоў у нябыт іракез Юрыка Хваста. Ужо іншыя прыбіраюцца ў майкі са шкілетамі. А Юрык павыдурваўся яшчэ гадоў колькі і на радасць бацькам аднавіўся ў педінстытуце. Атрымаўшы дыплом, у міліцыю меціў. (Ну чаму самыя крутыя нефармалы ў юнацтве пасля ў мянты ці вайскоўцы ідуць?) Але для органаў біяграфіяй не выйшаў : ці то ягоны дзед з фронту ўцёк, ці то маці ў краме пратаргавалася. Цяпер Юрка, перапрашаю Юрый Ігнатавіч, працуе ў ПТВ, выбачаюся, прафесійным ліцэі тэкстыльшчыкаў. Спачатку вёў гурток выразнага чытання, пасля прыбраў да рук усю выхаваўчую работу. Ладзіць конкурсы плакатаў «СТОП СНІД», шукае нелегальныя кіпяцільнікі ў пакоях інтэрната. Пыхкае як паравоз, выцірае насоўкаю залысіну на лбе, скардзіцца на паводзіны навучэнак. Гэта ж трэба! Замест таго каб слухаць у актавай зале яго лекцыю аб інавацыях у галіне маладзёжнай палітыкі, забаўляюць камандзіровачных з будтрэста!

Я па страчаным не тужу, яно было толькі мрояю. Толькі людзі з мінулага, найчасцей тыя, што вечна чакаюць сваёй долі на чужым карку, наманікюраныя лапкі склаўшы, дасталі спачуваннямі. Маўляў, разумніца, выдатніца, адукацыя вышэйшая, а рыбай у ларку гандлюеш. А па мне — праца як праца, усё як ва ўсіх. Сям'я шчаслівая. Праўда, шчаслівы ў ёй кожны паасобку. Сын — калі да камп'ютара дарвецца, муж — не ведаю, дзе знайшоў сваё шчасце, але каля крамы не відаць даўно. Я ж наймацней адчуваю задавальненне жыццём увечары, калі пасляпрацоўная цемра мікрараёна заглынае мяне ў сваю пашчу і я, дабраўшыся дадому, ахінаюся коўдраю і падаю на канапу.

Нягледзячы на сумесь шкадавання і дакору ў бацькоўскіх вачах, я не зайздрошчу перспектыўнай моладзі. Часам лаўрэаты, стыпендыяты, дыпламанты і іншыя маладыя ўзыходзячыя зоркі, якія так і не ўзыдуць, ні аб чым не здагадваючыся, усміхаюцца ў кароткіх рэпартажах праграмы «Навіны». Нават тады я не зайздрошчу. Бо ў іх усё яшчэ наперадзе. А я — сярод селядцовага смуроду, у адзежы з тлустымі плямамі — бруднымі справамі не займаюся.



**Таццяна Барысік**

пісьменніца. Жыве ў Магілёве. Працуе настаўніцай.






## Таццяна Барысік - у "Нашай Ніве"

*Прапануем вашай ўвазе апавяданне Т.Барысік "Перамагчы палтэргейст", якое 13 лютага 2013 г. на сваіх старонках змясціла "Наша Ніва".*

www.nn.by
№ 6 (795) 13 лютага 2013
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




*З друку выйшла новая кніга паэта Фелікса ШКІРМАНКОВА "Кантрольны маршрут". Вось што піша аўтар у прадмове:*

**У далёкім даваенным дзяцінстве ў мяне, як і ў кожнага майго равесніка, была мара аб тым, кім я стану, калі вырасту. Я хацеў стаць геолагам. Вайна ўнесла свае карэктывы і затрымала ажыццяўленне гэтай мары на дзесяць гадоў.**

**Прафесія зачаравала мяне і зрабіла сваім палонным на ўсё жыццё, а развітанне з ёй было цяжкім. Асабліва цяжкімі былі першыя пяць гадоў пасля выхаду на пенсію. Думкамі я быў усё яшчэ там – на бязмежных прасторах тайгі і сопак, дзе мой след быў першым следам чалавека сярод мядзведжых слядоў. Успаміны клаліся на паперу радкамі вершаў, празаічнымі замалёўкамі. Выходзілі кнігі. І ў кожнай з іх былі вершы аб тым незабыўным часе, калі кожную вясну я з радасцю адпраўляўся ў невядомае...**

**І ўзнікла думка выдаць асобнай кніжачкай ўсе мае вершы, прысвечаныя Паўночнаму Усходу. Сапраўды, асобныя вершы ў розных зборніках – гэта эпізадычныя ўспаміны, а сабраныя разам – гэта ўжо памяць.**

**Доўга думаў над назвай зборніка. Пры геалагічным карціраванні і пошуках, калі ўсе планавыя маршруты пройдзены, заўсёды ўзнікае патрэба прайсці адзін-два кантрольныя маршруты для ўдакладнення, пытанняў, што ўзніклі. І я вырашыў, што такім кантрольным маршрутам па ўспамінах тых гадоў будзе зборнік вершаў, прысвечаных паўночна-ўсходняй геалогіі. Так нарадзілася назва гэтай кніжкі – *«Кантрольны маршрут"*.**



Фота з кнігі

Фелікс Шкірманкоў: *"Ёсць золата!"*

# Уладзімір Ліўшыц

## Горацкія сябры Янкі Купалы



( *Працяг. Пачатак у № 15-16* )

Чуляеце, як яму нялёгка было вярнуць Янкавы кнігі з аўтографамі!»

У свой час Юры Гаўрук распавядаў аўтару гэтага матэрыяла, што Цішка Гартны пакрыўдзіўся, бо на чыгуначным вакзале яго не сустрэў ні рэктар акадэміі, ні сам Гарэцкі. Як вядома, першы быў у Мінску, а Максім Гарэцкі – на занятках.

Мала таго, што пісьменнікі не прыйшлі ў Палац культуры акадэміі на сустрэчу, дзе іх чакала некалькі сотняў студэнтаў і выкладчыкаў, але пры ад'ездзе з Горак Гартны абвяцаў «разабрацца» з кіраўніцтвам акадэміі і кафедры беларусазнаўства.

Да 2008 года з нагоды гэтай падзеі былі толькі ўспаміны, але ў 2008 годзе ў газеце «Советская Белоруссия» былі апублікаваныя дакументы, якія датычацца гэтага выпадку. Гэта ліст Максіма Гарэцкага ў ЦК КПБ.

Ён пісаў: *«14.ІІ.1928. Паважаны таварыш Кнорын!*
*Вы, пэўна, ужо ведаеце, які дзікі ўчынак дазволілі сабе ў Горках сябры «Полымя» пад камандаю Цішкі Гартнага. Мала таго, учора я даведаўся ад выкладчыка на рабфаку т. Сапранкова, а сёння са слоў асістэнткі кафедры беларусазнаўства т. Мядзёлкі, што Жылуновіч, выязджаючы з Горак, пагражаў зрабіць нейкія змены ў складзе адміністрацыі Акадэміі, бо не выехалі «самалічна на вакзал спаткаць яго [...]*

*Магчыма, што Жылуновіч захоча, між іншым, пабудаваць сваю расправу і на тым, што тут былі варожыя адносіны да беларускай культуры.*

*...Лічу... сваім абавязкам пасведчыць, што ніякіх і ні з чыйго боку варожых адносін ні да беларусізацыі, ні да беларускіх пісьменнікаў тут не бы-ло, а быў толькі нялепы ў нашых умовах, хамскі па сваёй псіхалогіі, учынак Жылуновіча і залежных ад яго... людзей.*

*М.Гарэцкі»...*

З 1928 года Максім Гарэцкі жыве і працуе ў Мінску вучоным спецыялістам Інстытута мовы Інбелкульта, там ён неадназарова сустракаўся з Янкам Купалам, але на жаль, сяброўскія адносіны паміж імі так і не аднавіліся.

У часопісе "Тэрмапілы", які выходзіць у Беластоку (Польшча) пляменнік М.Гарэцкага акадэмік Радзім Гарэцкі пісаў, як падчас стварэння беларускай Акадэміі навук Янка Купала выступіў супраць уключэньня ў яе дзядзьку. Акадэмік патлумачыў гэткую непрыхільнасьць да М.Гарэцкага тым, што той аднаго разу не сустрэў Купалу з Гартным на станцыі Пагодзіна ды асабіста не завёз іх у Горкі, дзе мелася адбыцца сустрэча мінскіх гасцей з выкладчыкамі і студэнтамі сельскагаспадарчай акадэміі.

Аднак Анатоль Сідарэвіч у часопісе "ARCHE" ( №3 за 2002 г.) піша, што *«...ведама, выпадак на станцыі таксама адыграў сваю ролю, але трэба і "Гісторыю беларускае літаратуры" разгарнуць ды паглядзець, што Гарэцкі пісаў пра Гартнага і Купалу».*

А.Сідарэвіч лічыць, што Купала мог быць не задаволены тым, што ў трэцім выданні гэтай кнігі (Вільня, 1924) параграф пра яго надрукаваны пасля параграфу пра Коласа. Пры гэтым Гарэцкі ў трэцім выданні піша пра лірыку паэта: *"Лірычных вершаў у Купалы дужа многа (што шкодзіць іх мастацкай вартасьці)..."*

У чацвёртым выданні «Гісторыі..» (Мінск,1926) М. Гарэцкі адзначае: *"Вершы пачатковай пары яго творчасьці, пэўна ж — слабейшыя па форме..."*

А.Сідарэвіч робіць высснову: *«Дык вось, калі паўстала пытаньне, быць ці ня быць М. Гарэцкаму акадэмікам, Купала мог прыгадаць, што той пісаў пра ягоныя творчы даробак. Ведама, і выпадак на станцыі Пагодзіна не забыўся».*




Макісм Гарэцкі
*Турэмны фотаздымак. 1930 г.*

( *Працяг будзе* )

# Віншуем!

1 лютага 2013 г. наш зямляк, вядомы беларускі літаратар, гісторык і краязнаўца, прафесар, сябра ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", сталы аўтар "Дняпроўскай Стромы" **Уладзімір Майсеевіч ЛІЎШЫЦ** адзначыў свой 67-ы дзень нараджэння.

Мы дасылаем у далёкі ізраільскі Нацрат-Іліт (Назарэт) сардэчныя віншаванні нашаму сябру і жадаем яму добрага здароўя, творчага натхнення і неўтаймаванасці ў пошуках гістарычнай праўды.

Давайце ў гэты дзень пагартаем разам з Уладзімірам Майсеевічам старонкі ягонага фотаальбома, дзе спыненыя імгненні жыцця настальгічна распавядаюць аб тым, што было...



Сям'я. 1950 г.



Злева сястра Фаіна, справа - Бэла. 1958 г.



1950 г.



Запіс у ЗАГСе г.Калінінграда. 1973 г.



Падчас правядзення заняткаў у БСГА. 1976 г.





З жонкай Ліляй. 23. 02. 2013 г.

# БЕЛАРУСКАЕ ПЯЦІБОРСТВА НУМАР ТУЗІН

(*Заканчэнне. Пачатак на с.3*)

Адмысловы прыз за лепшыя адказы на пытанні з гісторыі Магілёўшчыны журы вырашыла не прысуджаць.

Чарговы раз можна выказаць шкадаванне аб нізкай якасці гуманітарнай адукацыі ў школах Беларусі, асабліва адукацыі тычнай гісторыі, мовы і літаратуры сваёй краіны.

Цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў "Беларускага пяціборства - XII" адбылася ў кабінеце дэкана педагагічнага факультэта універсітэта імя А.Куляшова. Дыпломы, прызы і падарункі ўручалі: ад рэктарата ўніверсітэта – дэкан Аляксей Лаўшук, ад абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны – Яраслаў Клімуць, ад аргкамітэта "Беларускага пяціборства" – Міхась Булавацкі.



*Карэспандэнт "Радыё Свабода" Алесь Асіпцоў бярэ інтэрв'ю ў кіраўніка праекта "Беларускае пяціборства" Міхася Булавацкага*

***Язэп СТАРОНКІН.***
Фотаздымкі Надзеі Бацілавай.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 28.02.2013 г.. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.